Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ЛІСТАПАДА 2018 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

### …А распранае другі

Нікому падобны расклад не ў навіну
(Фінал у раскладзе звычайна благі):
Адзін як мага апранае жанчыну,
Аднак распранае жанчыну другі…

### Доктар ад Бога

Здавалася, Стас не даб'еціца нічога,
Ды стаў стаматолагам лёсу назло.
Казаў пацыентам:
– Я доктар ад Бога! --
Таму што дыплома ў яго не было.

### Асаблівасць інтэлігента

– Культурны чалавек па завуголлі,
Тым болей з незнаёмымі людзьмі,
Не будзе, не павінен піць ніколі!
Ты гэта, сын, за правіла вазьмі.
З інтэлігентам гэтакі занятак,
Павер мне, не стасуецца ніяк.
Падумаўшы, дадаў культурны тата:
– Хіба што пяцізорачны каньяк…

### Галоўны крытэрый

Мужчына дазнаецца толькі тады,
Які ён у ложку – благі ці харошы
(Пры гэтым няважна – стары, малады),
Калі для каханкі закончацца грошы.

### Сам па сабе

Мы, можа, пачнём разумець пакрысе,
Хоць зараз на гэта і мала ахвоты:
А быць жа не варта такім, як усе,
Калі навакола адны ідыёты…

### Перакладчык

На п'янцы перакладчык падышоў
(Каб узвялічыць талент свой)
Да мэтра:
– Я ведаю з дзясятак розных моў!
…На ўзроўні асвяжальніка паветра.

### Сэнс усмешкі

Калі ў кафэ хлапца дзяўчына
Здзіўляе ўсмешкаю харошай,
Зрабіць выснову ёсць прычына:
Зусім няма ў дзяўчыны грошай.
Як хлопец у адказ на гэта
Ёй усміхнецца як распуста,
Дык то надзейная прыкмета,
Што ў кашальку яго не пуста.

### Карысць навукі

Выслоўе ёсць: «Ученье – свет!»
І добра ведаем усе мы:
Не скончыш універсітэт –
Чакаюць у жыцці праблемы.
Чаму ж так важна мець дыплом?
Няма ніякай нечаканкі:
Як стане хтось вартаўніком,
Лягчэй разгадваць крыжаванкі.

### Як зрабіць шчаслівым мудраца

Пытанне адно мудрацу задалі –
Ён слухаў з ухмылкай на твары:
– Ці могуць зрабіць вас шчаслівым рублі,
Калі не рублі, дык даляры?
Надоўга задумаўся раптам мудрэц…
Пытанне пачулася зноўку.
Нарэшце – адказ, як апошні вянец:
– Давайце сваю залікоўку…

### Імёны на кары

У парку растуць і бярозы, і клёны.
Прыглядзьцеся добра, сябры:
Убачыце вы закаханых імёны –
Пакінуў іх нож на кары.
Мой розум парою вярэдзіць пытанне
(І, мусіць, не тлумнае ўсё ж):
Чаму, ідучы-бегучы на спатканне,
Бяруць закаханыя нож?..

### Калі наступае дарослась

– Калі, скажы мне,
Хлопчыкі й дзяўчынкі
Дарослымі сябе маглі б адчуць?
Ён адказаў
(Хаця не без замінкі –
Падумаў, усміхнуўшыся, чуць-чуць):
– А сам не здагадаешся хіба ты?
Ты ж тройчы дзед,
Дык мог бы ўжо дапяць:
Калі чапляюць ліфчыкі дзяўчаты,
А хлопцы пачынаюць іх здымаць…

### Тэорыя і практыка

Паўгода аж
Сабе ўбівала ў клёк
Паліна,
Каб затым не зведаць гора,
І правілы ўсе знала назубок.
І вось нарэшце выехала ў горад.
Патрапіўшы ў паток машын, яна
Праз шкло глядзела круглымі вачыма,
І думка толькі дзюбала адна:
«А лепей бы малітвы я вучыла…»

### Анёл, сатана і казёл

Казала пра «былога» невясёла
Жанчына, наракаючы на лёс:
– Спачатку ў ім разгледзела анёла,
Здавалася, спусціўся ён з нябёс.
А потым мужа
Падмянілі быццам.
Праплакала я ночку не адну –
Скандаліць стаў са мною,
Нават біцца.
Разгледзела я ў мужы сатану.
Не згадвала б пра здзекі ўсе і шкоду,
Аднак сабе прабачыць не магу,
Што ў ім казла –
Ужо падчас разводу –
Разгледзела ў апошнюю чаргу…

ФОТАФАКТ

## У Браславе футбольнае поле… зааралі

У сацыяльных сетках з'явіліся фота: трактар з плугам працуе на браслаўскім гарадскім стадыёне. Што здарылася?

*«Можа, мясцовая футбольная каманда дрэнна выступіла ў гэтым годзе, а таму зямлю вырашылі аддаць на іншыя патрэбы?»* – жартуюць некаторыя.

Як паведамляе газета «Браслаўская звязда», *«гэта першы крок на шляху да капітальнага рамонту з мадэрнізацыяй стадыёна, запланаванага ў межах падрыхтоўкі да абласных «Дажынак», якія пройдуць у Браславе ў наступным годзе».*

Што, пра спартыўныя мерапрыемствы на стадыёне прыйдзецца забыцца як мінімум да верасня 2019 года?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**




ЗВОНОК В РЕДАКЦИЮ

## «Должен ли я был войти в переднюю дверь автобуса?»

Необычный звонок раздался вчера в приемной редакции. Читатель взволнованным голосом спросил:

– Скажите, должен ли я был войти в переднюю дверь автобуса?

– А в связи с чем вас это интересует?

– Да вот десять минут назад чуть не оштрафовали!

– Из-за чего?

– У меня не было талончика на проезд в городском транспорте, а вблизи ни одного киоска. Ладно, думаю, куплю билет у водителя. Когда подошел автобус, я оказался как раз напротив второй двери. Пассажиров было много едва втиснулся. Попробовал продвинуться по проходу – никто не расступился. Когда через две остановки до водительской кабины оставался какой-то метр, откуда ни возьмись появились контролеры. Говорят: «Плати штраф, если не было билета, нужно было входить через переднюю дверь, тогда сразу же смог бы купить…» За меня заступились пассажиры, и контролеры сказали: «Ладно, быстренько приобретай билет, но предупреждаем: в следующий раз, если окажешься в такой ситуации, оштрафуем по полной…» Что, действительно я должен был войти только через переднюю дверь?..

Честно говоря, не могли мы с ходу дать четкий ответ нашему читателю, оказавшемуся в нестандартной ситуации. Попросили его назвать свой номер телефона: мол, выясним и позже перезвоним.

Нетрудно было узнать, что с 12 октября в Беларуси действуют обновленные правила автомобильных перевозок. Введено и такое новшество: если у пассажира нет билета и он решил приобрести его у водителя, то ему лучше всего войти в салон через переднюю дверь и сразу же купить талончик. Контролеры имеют полное право оштрафовать того, кто вошел через другие двери и проехал одну или несколько остановок без билета. Не являются оправдательными доводы насчет того, что из-за переполненности транспорта пассажир не успел купить талончик у водителя.

**Регина СВИДЕРСКАЯ.**

РЕЗОНАНС

## …В соответствии с требованиями нормативных документов

12 октября в «Народной Воле» опубликован материал под названием «Шкада вітамінаў для пацыентаў бальніцы?» – об организации питания пациентов, находящихся на стационарном лечении в кардиологическом отделении учреждения «2-я Городская клиническая больница».

Питание пациентов организовано УП «Комбинат питания «Витамин» в соответствии с требованиями нормативных документов: постановление Министерства здравоохранения Республики Беларусь от 14 января 2003 года №2 «Об утверждении норм среднесуточного набора продуктов питания для одного пациента в государственных организациях здравоохранения Республики Беларусь» (в ред. постановлений Минздрава от 14.11.2007 №111, от 03.10.2008 №163, от 31.03.2011 №24); постановление Министерства здравоохранения Республики Беларусь от 29 августа 2008 года №135 «Об утверждении инструкции об организации диетического питания в государственных организациях здравоохранения» (в ред. постановлений Минздрава от 25.03.2011 №22, от 20.07.2011 №71) с учетом выделенного бюджетного финансирования. Средняя стоимость одного койко-дня по питанию для пациентов УЗ «2ГКБ» в октябре 2018 года составляет 6,3 рубля.

В соответствии с указанными документами ежедневно свежие фрукты положены: пациентам с эндокринной патологией; пациентам с ожоговой болезнью (при наличии показаний); пациенткам родильных отделений; пациентам, страдающим туберкулезом; ветеранам Великой Отечественной войны и лицам, приравненным к ним по льготам. Диетическое питание (диета) назначается пациенту непосредственно в учреждении здравоохранения. В процессе лечения возможно внесение изменений в диету, назначенную пациенту, а также организация дополнительного и/или индивидуального питания.

Приготовление диетического питания для пациентов всех отделений учреждения здравоохранения «2ГКБ» осуществляется работниками УП «Комбинат питания «Витамин» с последующей доставкой на территорию учреждения. На территории учреждения здравоохранения материально ответственное лицо комбината под роспись выдает диетическое питание материально ответственным лицам учреждения здравоохранения, которые несут полную ответственность за выдачу в отделении диетического питания пациентам в соответствии с назначенной диетой.

**Учреждение здравоохранения «2-я Городская клиническая больница»**
**12 октября 2018 г., пятница**

| Порц. | Диеты | № тех. к., Наименование блюда | Выход |
|---|---|---|---|
| **Завтрак** | | | |
| 549 | Б, Д, Д1, П | 377, Каша из овсян. плющ. кр. мол. жид. б/с | 200 |
| 549 | Б, Д, Д1, П | 417, Омлет натуральный | 105 |
| 9 | ПП | 931, Пюре овощное 0.19 | 190 |
| 10 | 0, ПП | 4540, Суп с кр. овсян. плющен. слиз. | 400 |
| **Второй завтрак** | | | |
| 85 | Д1 | 1015, Сок яблочный б/с 1 л | 200 |
| 36 | Д, ИОВ, ПП | 1016, Сок яблочный б/с 0.2 | 200 |
| Обед | | | |
| 549 | Б, Д, Д1, П | 207, Щи из свежей капусты с карт. | 420 |
| 10 | 0, ПП | 272, Бульон с мясн. фрикад. протертый | 400/50 |
| 109 | Д, Д1 | 361, Каша пшеничная жидкая (гарнир.) | 200 |
| 549 | Б, Д, Д1, П | 645, Мясо отварное п/ф з/т | 75 |
| 9 | ПП | 756, Мясное пюре (консерв.) | 100 |
| 440 | Б, П | 801, Макаронные изделия отварные | 200 |
| 450 | 0, Б, П, ПП | 954, Напиток из сухофр. с вит. С | 200 |
| 109 | Д, Д1 | 955, Напиток из сухофр. с вит. С б/с | 200 |
| **Полдник** | | | |
| 118 | Д, Д1, ПП | 1949, Кефир, 0.250 | 250 |
| **Ужин** | | | |
| 449 | Б, Д, Д1 | 92, Салат из морской капусты с м.р. | 100 |
| 10 | 0, ПП | 275, Суп с кр.перловой слизистый. 400 | 400 |
| 549 | Б, Д, Д1, П | 502, Рыба припущенная | 100 |
| 9 | ПП | 756, Мясное пюре (консерв.) | 100 |
| 549 | Б, Д, Д1, П | 803, Пюре картофельное | 200 |
| 100 | П | 813, Морковь, тушенная в сметане | 100 |
| 450 | 0, Б, П, ПП | 985, Кисель из припаса клюкв. | 200 |



При анализе ежедневного меню для пациентов кардиологического отделения УЗ «2 ГКБ» за период с 1 по 12 октября 2018 года установлено следующее. Овощи свежие порционно (помидоры, огурцы; малосольные огурцы) или в виде салатов, в рецептуру которых входят свекла, морковь, зеленый горошек, пациенты получают 1–2 раза в день на обед или ужин, кроме дней, когда в меню на обед приготовлен молочный суп, а на ужин – творожная запеканка. Также следует отметить, что для разнообразия блюд в качестве гарнира пациенты получали овощные смеси, в составе которых спаржевая фасоль, морковь, зеленый горошек, брокколи, цветная капуста.

Сотрудники УП «Комбинат питания «Витамин», администрация учреждения здравоохранения постоянно проводят анонимное анкетирование пациентов по вопросам организации питания. По результатам последнего анкетирования, проведенного в сентябре 2018 года, удовлетворено организацией диетического питания, его качеством, ассортиментом блюд от 87% до 100% пациентов.

**А.П.МАКАРОВ, директор комбината питания «Витамин».**

SOS!

## 2019 год павінен быць Годам беларускай мовы!

Уважліва адсочваю публікацыі ў «Народнай Волі» па нацыянальна-культурнай, моўнай праблематыцы. Таму ніяк не мог абмінуць невялікі па памерах артыкул майго калегі і сябра прафесара Міколы Савіцкага «Захаваем святыню беларусаў» (21 верасня 2018). У якасці аднаго са сродкаў выратавання роднай мовы ён прапанаваў абвясціць 2019 год Годам беларускай мовы. Цалкам падтрымліваю такую прапанову!

Параіўшыся са спадаром Савіцкім, мы вырашылі разам напісаць на хвалюючую не толькі нас, а і ўсё свядомае грамадства вялікі грунтоўны артыкул і накіраваць яго на разгляд Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Адміністрацыі прэзідэнта, Савета міністраў. Лічылі і спадзяваліся, што высокія ўладныя структуры краіны з адпаведнай зацікаўленасцю сустрэнуць нашу ініцыятыву, бо гаворка ж ідзе не пра будаўніцтва катэджаў, атрыманне льгот на медыцынскае абслугоўванне, а пра самае важнае і дарагое для беларусаў – пра нашу родную мову. Калі мы яе страцім, то перастанем існаваць як паўнавартасны самабытны народ, а наша Айчына перастане быць этнічнай Беларуссю, а гэта значыць, на яе зможа прэтэндаваць любы сусед.

На жаль, ёсць падставы для сцвярджэння, што ўсё няўхільна рухаецца да гэтага. Ужо не першы год на нашым абшары «русский мир» пачуваецца непараўнальна лепш, чым многія суполкі, якія адстойваюць сваё, нацыянальнае. Толькі сляпы не заўважае, што з-за вузкалобасці многіх чыноўнікаў адчыняюцца насцеж дзверы для інкарпарацыі нашай краіны.

Лічу недаравальным тое, што на ўсе свае звароты ў вышэйшыя органы ўлады мы атрымалі фармальныя адпіскі. Мне нават агідна каменціраваць іх. Сёлета – Год малой радзімы. Скажыце, а як малая радзіма можа заставацца без роднай, беларускай мовы? Яе ўжо не чуваць у тых жа вясковых школах, пасёлках, раённых і абласных цэнтрах. Калі ў Мінск прыязджаюць замежныя госці, то яны ніяк не могуць зразумець, куды яны трапілі – у сталіцу Беларусі ці ў нейкі расійскі горад.

Вось чаму мы ставілі і ставім пытанне рубам: 2019 год павінен быць Годам беларускай мовы! Калі гэтага не адбудзецца, то рэальны стан яе яшчэ больш пагоршыцца, наша нацыянальнае жыццё ўшчыльную наблізіцца да мяжы поўнай, канчатковай дэфармацыі, што толькі паспрыяе «русскому миру» стаць адзіным паўнаўладным гаспадаром на нашай датла зняверанай дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі зямлі. Прачынаймася ж, браткі-беларусы, прачынаймася!

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

НЕЗАБЫЎНАЕ

## Гісторыя салдацкай песні

Нядаўна я праводзіў рэвізію сваёй хатняй бібліятэкі і наткнуўся на фотаальбом «Мікалай Чэпік», выдадзены яшчэ ў мінулым тысячагоддзі ў журналісцкай серыі «Жизнь – подвиг». Пачаў гартаць, разглядваць фотаздымкі, якія маглі б назаўсёды застацца ў сямейным альбоме схаванымі ад староннняга вока. Маглі б! Калі б не подзвіг Мікалая, здзейснены на шматпакутнай зямлі Афганістана, куды яго, савецкага салдата, кінула ў пашчу душманаў крамлёўскае партыйнае кіраўніцтва на чале з Брэжневым. Подзвіг гэты зрабіў імя воіна вядомым усёй тагачаснай краіне з абрэвіятурай СССР.

Успаміны людзей, якія ведалі Колю (адны вучыліся з ім у школе, з другімі працаваў на чыгунцы, з трэцімі служыў у войску), радкі з армейскіх характарыстык і лістоў, што сын пісаў бацькам дадому, лісты, якія пасля гібелі нашага земляка слалі ў яго вёску людзі з розных куткоў магутнага і, як тады здавалася, непарушнага саюза, – усё гэта, прыведзенае ў альбоме, дапамагае чытачам больш яскрава раскрыць вобраз юнака, які, здавалася б, рос звычайным хлапчуком, а калі паклікала Радзіма (адкінем убок развагі наконт таго, куды і навошта), стаў яе салдатам і без ваганняў зрабіў крок у бессмяротнасць.

Гартаю альбом, яшчэ і яшчэ раз учытваюся ў старонкі жыцця Мікалая Чэпіка. І раптам зрок натыкаецца на знаёмыя радкі салдацкай песні: *«Чеканит шаг солдатский строй,// Идет крылатая пехота.// И Чепик с нами, наш герой // Он навсегда зачислен в роту».* І памяць пераносіць на дзесяцігоддзі назад, у той жнівеньскі дзень цяпер ужо далёкага 1981 года, калі над салдацкім плацам упершыню залуналі гэтыя радкі.

У жыцці я размінуўся з ім на нейкія два гады. Калі мы, слухачы Вышэйшай камсамольскай школы пры ЦК ВЛКСМ, прыехалі на зборы ў вайсковую часць пад літоўскім, тады яшчэ савецкім, Каўнасам, дзе служыў герой, ён сустрэў нас пільным – як і ў жыцці – позіркам са стэлы. У казарме, дзе Мікалаю Чэпіку не аднойчы, пэўна, сніўся родны бацькоўскі дом (а быў ён па мерках СССР не так ужо і далёка), жылі іншыя воіны – тыя, хто прыйшоў на службу пасля і для каго імя правафлангавага роты на кожнай паверцы напамінала крылаты выраз: «У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу». Нібы сёння, бачу роўныя рады ложкаў, засланых па зычнай камандзе дняавальнага «Пад'ём!», якія чакаюць сваіх салдат да вечара, калі тут прагрыміць іншая каманда: «Адбой!». Усе, акрамя аднаго. Ложак Мікалая Чэпіка заставаўся засланым заўсёды.

Астатняе ўсё было, як пры ім. Хіба што іншыя воіны, народжаныя пазней, праводзілі тактычныя заняткі, займаліся агнявой падрыхтоўкай, адпрацоўвалі скачкі з парашутам на трэнажорах, дэсантаваліся з баявых самалётаў, удзельнічалі ў аглядах салдацкага строю і песні. Праўда, ці мог нават падазраваць Мікалай, што «чэпікаўцы» – так называлі сябе байцы роты, у спісы якой быў навечна залічаны Герой Савецкага Саюза Мікалай Чэпік, – будуць маршыраваць па плацу з песняй пра яго!

Час нашых воінскіх збораў якраз супаў з падрыхтоўкай у часці да чарговага агляду салдацкага строю і песні. Даведаўшыся ад некага з нашых пра мае вершаваныя практыкаванні, да мяне падышоў нампаліт роты «чэпікаўцаў» і папрасіў напісаць песню пра героя. Спачатку я спрабаваў адмовіцца: бо адна справа – вершы, і зусім іншая – песня (тым больш з маім музычным слыхам, калі не ў кожнай кампаніі адважваўся нават падцягнуць знаёмую мелодыю!), аднак нампаліт так ужо загарэўся гэтай ідэяй («вы напішыце толькі словы, а мы іх на музыку маршу самі пакладзём, затое ўяўляеце – выйдзем са **сваёй** песняй!»), што адмовіцца было немагчыма. Ідучы на абед, я перадаў нампаліту аркуш з напісаным вершам, а назаўтра раніцай ужо адбылася прэм'ера песні. І рота выйшла з ёй пераможцай.

Гэтая песня і сёння гучыць у маёй памяці. Як і тая, што напісана нашым знакамітым кампазітарам Ігарам Лучанком. Бо і само жыццё Мікалая Чэпіка – песня. Кароткая, як дваццаць няпоўных вёсен героя, вечная – як памяць пра подзвіг яго.

…Перагортваючы старонкі альбома, учытваючыся ў кожны друкаваны радок, углядваючыся ў кожны фотаздымак, памятай, сучаснік: Мікалай Чэпік, падарваўшы сябе з душманамі, якія ўзялі яго ў кальцо, зрабіў усё, што ў той сітуацыі мог. А чаго вось ён не паспеў – рабіць нам. Гэта наша памяць аб ім, наша сумленне і абавязак.

Праўда, змяніўся час – і сёння ў суверэннай Літве свае войска. Думаю, наўрад ці хто памятае ў ім пра Мікалая Чэпіка – героя той абсалютна неабавязковай вайны ў Афганістане. Але ж хіба ёсць у тым віна нашага земляка, пасланага Крамлём разам з тысячамі тагачасных савецкіх воінаў для задавальнення ўласных амбіцый у далёкую і чужую краіну?

**Анатоль ЗЭКАЎ, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАЕКТ

## Таццяна ЦІШКЕВІЧ, палітэмігрантка і былая актывістка:

# «У Польшчы пачуваюся бяздомнай…»




Актывісткай маладзёжнага грамадска-палітычнага руху яна стала ў сямнаццаць гадоў. *«Сяброўка пазнаёміла з Мікітам Сасімам, актывістам кампаніі «Джынс за Свабоду», – так пачалося маё змаганне за правы чалавека, праўду, справядлівасць і свабоду»*, – узгадвае Таццяна.

Праз гэта мусіла сысці з дома і некаторы час жыла з сяброўкай на «партыйным офісе».

*«Мама мяне не падтрымлівала, і за кожную ўлётку адбываўся скандал. Калі аднойчы паклікала маму на свой суд, то яна сказала: «Няма чаго мне болей рабіць! Не збіраюся па судах цягацца!»*

Актывістка кампаніі «Джынс за Свабоду», руху «Еўрапейская Беларусь» **Таццяна Цішкевіч** за ўдзел у флэшмобах, акцыях салідарнасці і пратэсту адбывала адміністрацыйныя арышты ў ізалятары на вуліцы Акрэсціна ў Мінску ад двух да дваццаці сутак.

Трэнер па конным спорце – такую прафесію Таццяна Цішкевіч асвойвала ў коннай школе ў Ратамцы пад Мінскам. Вышэйшую адукацыю ў гэтай галіне мелася атрымаць ва Універсітэце фізічнай культуры. Але з другога курса яе адлічылі.

«Я адбывала «суткі» на Акрэсціна, калі прыйшоў міліцыянт, які мяне садзіў, і кажа: «Цішкевіч, ты больш не вучышся». А фармальна выключэнне было зацверджана «за адміністрацыйныя парушэнні, скіраваныя супраць грамадскага парадку і маральнасці».

У 2007 годзе падчас вулічнай акцыі салідарнасці з сем'ямі зніклых палітыкаў і палітвязняў Цішкевіч збілі амапаўцы. З чэрапна-мазгавой траўмай дзяўчына трапіла ў шпіталь, каля месяца праходзіла медыцынскую рэабілітацыю. Крымінальную справу на Таццяну Цішкевіч завялі за ўдзел у акцыях пратэсту прадпрымальнікаў 2008 года ў складзе групы з 14 маладзёжных актывістаў. «Працэс чатырнаццаці» меў шырокі грамадскі рэзананс. Два гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы – такі быў вырак суда.

Тры гады турмы, паводле новага артыкула Крымінальнага кодэкса, Таццяне Цішкевіч пагражалі «за ўхіленне» ад адбыцця ўмоўнага зняволення. Актывістку абвясцілі ў вышук у 2008 годзе, калі яна пакінула Беларусь.

Сёлета Таццяне споўнілася 30 гадоў – дзесяць з іх яна жыве ў польскім горадзе Вроцлаве. Працуе ў галіне фізічнай культуры і здароўя, палітыкай не займаецца.

### «Цішкевіч, звальвай ты лепш у Польшчу»

**– Як бы вы назвалі вашу эміграцыю з Беларусі: палітычнай, інтэлектуальнай ці эканамічнай?**

– Натуральна, што я з'ехала з прычыны тых умоў, у якія была пастаўлена. Я не магла займацца нічым: ні палітыкай, бо пагражала сапраўдная турма, ні навучаннем, бо выключылі з універсітэта, ні ўлюбёным конным спортам.

І ўсё роўна я нават не думала з'язджаць. Але аднойчы была на допыце ў пракуратуры – давала паказанні з нагоды сваёй скаргі. У мяне склаліся добрыя адносіны з пракурорам – ён нават да метро мяне падвёз, калі ехаў па сваіх справах. І вось па дарозе ён так сур'ёзна паглядзеў на мяне і кажа: «Цішкевіч, звальвай ты лепш у Польшчу». І тады я сапраўды сур'ёзна падумала пра ад'езд.

**– Ці не думалі вы пра тое, што гэта парада магла быць часткай плана сілавікоў па выцісканні з Беларусі самых актыўных апанентаў рэжыму?**

– Думаю, не без гэтага: з аднаго боку, лібералізацыя, а з іншага – тупнуць нагой пад сталом, каб такія, як я, нават не высоўваліся. Мяне, да прыкладу, і цяпер – праз дзесяць гадоў пасля ад'езду – працягваюць шукаць. Тэлефануюць маме, прыходзяць дадому і кажуць, каб я прыйшла ў міліцыю.

Прычым робяць гэта позна ўвечары ці ранкам – нават перад тым, як маму клалі на аперацыю ў шпіталь. Мая сястра жыве ў Чэхіі, і вось калі яна праз некалькі гадоў прыехала дадому, адразу прыйшлі міліцыянты і праверылі яе дакументы.

### «Калі нехта пытаўся пра Беларусь, магла разрыдацца»

**– Што значыць з'ехаць у няпоўныя 20 гадоў? Чужая краіна, іншае грамадства – як для вас гэта было?**

– Перадусім скажу, што гэта рашэнне прымала цяжка – цягам трох месяцаў і ў сур'ёзнай дэпрэсіі. Я была асуджана, не мела права пакідаць Мінск і таму мусіла выязджаць так, каб ніхто не ведаў. Сказала пра гэта толькі чатыром людзям. Таму ў мяне нават не было магчымасці развітацца з роднымі ды сябрамі.

«Прыгоды» пачаліся яшчэ ў Мінску: напярэдадні сябар узяў мае сумкі, каб прынесці іх да цягніка. Я чакаю, застаецца некалькі хвілін, і раптам ён прыходзіць без сумак: «Скажы, якія там ляжаць рэчы, бо я забыўся код у камеры захоўвання і не магу іх забраць».

У выніку я паехала з адным заплечнікам – праз Расію, Украіну, са шматлікімі перасадкамі. Тады ўпершыню перажыла сапраўдны страх. Калі б мяне затрымалі, то наступныя некалькі гадоў я пражыла б у беларускай турме.

Праз двое сутак у Варшаве мяне сустрэлі сябры, і стала нашмат лягчэй. Адтуль я накіравалася ва Вроцлаў, дзе мелася навучацца ў Акадэміі фізічнага выхавання па праграме Каліноўскага.

**– Ці можна сказаць, што ваша грамадска-палітычная актыўнасць у Беларусі паўплывала на ўсё ваша жыццё?**

– Так, вельмі моцна паўплывала. Першы час увогуле не магла размаўляць на гэту тэму. Калі ў мяне нехта пытаўся пра Беларусь, магла проста разрыдацца. Бо пакінула ўсё сваё жыццё, сваіх родных і блізкіх – мама хварэе, і я не магу ёй нічым дапамагчы. Я дасюль цалкам не перажыла гэты боль.

Трохі мяне ратаваў удзел у розных акцыях у падтрымку Беларусі ў Польшчы. Ва Вроцлаве мы са студэнцкай ініцыятывай «Вольная Беларусь» праводзілі пікеты, акцыі, пісалі лісты палітвязням.

Але шмат часу аддаваць грамадскай актыўнасці таксама не магла, бо мусіла сябе ўтрымліваць, працаваць – стыпендыі на жыццё не хапала. Скончыла ўніверсітэт, курсы па конным спорце, аздараўленні. Гэтым цяпер і займаюся.

Папулярызую здаровы лад жыцця – таксама ў звязцы з духоўным развіццём: масажы, музыкатэрапія, біяэнергетыка і г.д. Магчыма, гэты занятак перадаўся мне ў спадчыну, бо прабабця была «шаптухай» – умела лячыць травамі, рабіць замовы.

### «Частку жыцця пакінула на радзіме – і сум даганяе мяне час ад часу»

**– Ад вашага ад'езду прайшло дзесяць гадоў. Як вы цяпер пачуваецеся ў Польшчы?**

– Вельмі па-рознаму. Былі складаныя моманты ў жыцці, калі я трапіла ў аўтамабільную аварыю. Атрымала цяжкія траўмы, амаль суткі была ў непрытомнасці, але, як толькі ачуняла, у шпіталі сказалі, што не могуць мяне лячыць. Калі гэта здарылася, я вярталася з вяселля і страхоўкі з сабой не мела. І пацвердзіць яе таксама не магла. І мяне папросту выставілі са шпіталя. Так я паўтара месяца заставалася дома і на таксоўцы мусіла ездзіць да прыватных лекараў. А займацца страхавымі кампенсацыямі не было ні магчымасці, ні сіл.

Але я не шкадую наконт таго, чым займалася ў Беларусі, і не шкадую, што з'ехала. Бо гэта пашырыла мае магчымасці далейшага развіцця, дало шанец паглядзець на жыццё з іншага боку.

Хоць цалкам так яшчэ і не знайшла сябе. Не пачуваюся «стабільна» – так да канца і не адаптавалася. Частку жыцця пакінула на радзіме – і сум даганяе мяне час ад часу.

**– Ці разглядаеце магчымасць вярнуцца ў Беларусь?**

– Не магу сказаць, што хачу вярнуцца. Але хацела б мець магчымасць вярнуцца, пабачыць родных, адчуць радзіму. Цяпер я пачуваюся бяздомнай.

Наколькі я ведаю, мой судовы вырак – два гады ўмоўнага зняволення – не мае тэрміну даўнасці. Таму проста так вяртацца на радзіму пры гэтай уладзе небяспечна. Спадзяюся, што сітуацыя зменіцца хаця б са зменай самой улады.

Нядаўна мне споўнілася 30 гадоў, і трэцюю частку з іх я жыву па-за межамі радзімы. У такім узросце ўжо прыходзіць думка пра ўласны дом і ўласную сям'ю, якіх я пакуль што не маю.

### Пяць пытанняў Свабоды

**– Беларуская нацыянальная ідэя – гэта...**

– Па-рознаму можна адказаць на гэтае пытанне. Але першае, што прыходзіць на думку, – гэта «разам» і «радасць». Калі ёсць супольнасць і ёсць падтрымка ў ёй. Гэта жыццё ў згодзе з сабой і з людской супольнасцю.

Мне лягчэй было б нават намаляваць гэтую ідэю, чым сказаць пра яе: нават бачу такую сямейную супольнасць перад вогнішчам.

**– Назавіце трох нацыянальных герояў Беларусі.**

– Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. Перада мной прайшло шмат герояў – вельмі годных людзей, і я не хацела б пэўным спісам абмяжоўваць іх колькасць.

**– Якая кніга паўплывала на вас як на асобу?**

– Як асоба я фарміруюся дагэтуль. А першая кніга, якая асабліва мяне ўразіла і запомнілася, у якой я пабачыла і саму сябе, – гэта «Мудрасць жыцця» філосафа Оша.

**– Колькі грошай вам патрэбна для поўнага шчасця?**

– Шчасце не ў грашах. Грошы – гэта толькі адзін са складнікаў шчасця. Калі не будзе іншых, то і грошы не зробяць шчаслівым. Я амбіцыёзны чалавек, і калі б у мяне была пэўная сума грошай, то знайшла б магчымасць, як найлепш іх выкарыстаць, інвеставаць у сваё развіццё ці развіццё сваёй фірмы.

Я рознабаковы чалавек, таму магу пражыць і на малыя грошы. Але жыццё ёсць не для таго, каб зводзіць канцы з канцамі. А каб добра жыць, патрэбны грошы, каб мець сваё жыллё і было дастаткова не толькі на неабходныя патрэбы, але таксама на добры адпачынак, на камфорт і г.д.

**– Калі і як у Беларусі зменіцца ўлада?**

– Пэўна, пакуль Лукашэнка не памрэ, то і не зменіцца. Не ўяўляю іншых варыянтаў.

(Радыё Свабода.)

СЛЫШАЛИ?

# Мария Гулегина худеет ради платьев Карла Лагерфельда

*Звезда мировой оперы поздравила с 85-летием известного немецкого модельера.*

*– Так случилось, что у меня от него два потрясающих платья – персональный заказ!* – рассказала певица, которая в прошлом веке пела на сцене Театра оперы и балета Беларуси.

Мария Гулегина подчеркнула, что всемирно известный модельер не просто придумывал платье.

*– Самое интересное, что меня поразило, – это его внимание и желание узнать, чего хочу я.*

*…Незабываемый 1998 год. Открытие сезона в Ла Скала – потрясающее черное бархатное платье и другое к Реквиему Верди... Надо скинуть вес – и надену!*

*120 лет ему жизни в здоровье, счастье и кайфе!*

Мария Гулегина пела в белорусском Театре оперы и балета. В Европу она уехала в 1990 году. Через два года она вернулась, чтобы принять участие в благотворительном концерте, посвященном очередной годовщине Чернобыля. С тех пор бывала в Минске редкими наездами.



В интервью «Народной Воле» Гулегина рассказывала, что сегодня поддерживает связь с Беларусью через дипломатов, которые всегда быстро и эффективно решают все ее вопросы.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

СТИЛЬ ЖИЗНИ

# Как принц Чарльз отметит 70-летие

*За организацию вечеринки отвечает мама именинника.*

14 ноября наследнику британского престола принцу Чарльзу исполнится 70 лет. Королевская семья широко отметит это событие. В честь дня рождения сына Елизавета II устроит праздничный прием и торжественный ужин в Букингемском дворце. Среди гостей – семья и представители королевских семей Европы. Приглашения им были разосланы еще в сентябре. Свое присутствие на празднике уже подтвердили наследник датского престола с женой – кронпринц Фредерик и кронпринцесса Мэри.

Детали юбилейного вечера не разглашаются, известно лишь, что королева планирует произнести торжественную речь в честь старшего сына.

Как сообщает «Татлер», журналистов в бальный зал Букингемского дворца не пустят, за исключением съемочной группы канала Би-Би-Си во главе с режиссером Джоном Бридкатом, который на протяжении последнего года снимает документальный фильм «Принц, сын и наследник: Чарльз в 70».

Королевский монетный двор тоже не обошел вниманием день рождения принца и выпустил по этому поводу новую монету достоинством 5 фунтов, на которой впервые запечатлены инициалы четырех поколений монархов – Елизаветы II, а также Чарльза, Уильяма и Джорджа, которым только предстоит унаследовать престол.



НУ И НУ!

# 72-летняя француженка воровала игрушки в магазинах и продавала их в интернете

*Французская полиция арестовала 72-летнюю женщину по подозрению в краже из магазинов игрушек сотен вещей, которые затем продавала через интернет. Об этом пишет Би-Би-Си.*

О кражах в полицию сообщил менеджер парижского магазина игрушек после того, как обнаружил онлайн-рекламу украденных из его магазина игрушек.

После обысков в доме женщины нашли около 1000 игрушек. Большинство были в оригинальной упаковке и украдены главным образом из крупных парижских магазинов.

Полиция также нашла 40 тысяч евро наличными.

Прокуроры рассказали французским СМИ, что женщина призналась в кражах. Свои действия объяснила тем, что ей «не было чем заняться».

АТЫ-БАТЫ

# США и Южная Корея начали совместные учения

*Соединенные Штаты и Южная Корея начали проводить совместные военно-морские маневры. Об этом сообщает Yonhap.*

Как отмечается, эти учения являются первыми, которые страны проводят с июня 2018 года.

Летом они были прекращены для предотвращения угрозы срыва денуклеаризации Северной Кореи.

Согласно имеющейся информации, учения продлятся две недели. В них задействованы катера-амфибии, а также участвуют около 500 военных.

В то же время проведение учений большего масштаба пока и дальше заморожено.

АСОБА





# Міхась СКОБЛА – Вячка ЦЕЛЕШ

# «Беларусам трэба яднацца ў адну сям'ю і не гандляваць сваім суверэнітэтам»

*Мастак, калекцыянер, краязнавец, заснавальнік мастацкага аб'яднання «Маю гонар», першы дырэктар Беларускай школы ў Рызе. Грамадзянін Латвіі і кавалер найвышэйшай узнагароды гэтай краіны – ордэна Трох Зорак. Збіральнік свайго радаводнага дрэва, на якім некалькі соцень імёнаў. Майстар экслібрыса, якому кніжныя знакі заказвалі Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін. Усё гэта* ***Вячка Целеш****, якому нядаўна споўнілася 80 гадоў. І на дзявятым дзясятку ён не збіраецца па-дзядоўску сядзець на прызбе. Адкрыўшы дзве персанальныя выставы і здаўшы ў выдавецтва чарговую кнігу, наш зямляк нарэшце дабраў часу і на гэты пасляюбілейны дыялог.*

## «Распытваю ў землякоў пра свайго дзеда і чую: «А ты часам не шпіён?»

**– Спадар Вячка, вы родам з Ваўкавышчыны, з пасёлка Краснасельскі, які да нядаўняга часу забяспечваў цэментам палову Беларусі. А яшчэ вакол пасёлка знаходзяцца старажытныя крэмнездабыўныя шахты, адкрытыя ў свой час археолагам Міхасём Чарняўскім. Цяперашні Краснасельскі нават улетку белы – ад крэйдавага пылу. А якім ён помніцца з вашага маленства?**

– Для мяне Краснасельскі (раней – Краснае Сяло) – гэта бацькоўская хата і хата майго дзеда, дзе да 1939 года жылі мае бацькі і дзе я нарадзіўся яшчэ за польскім часам. Да 1950-х гадоў вёска размаўляла толькі па беларуску, усе адзін аднаго ведалі. Мы, дзеці, гулялі ў хованкі, у лапту, у футбол, купаліся ў рэчцы Рось. Пасля вайны я хадзіў у сямігодку на цэментным заводзе побач з вёскай. Калі на пачатку 1960-х завод пачалі пашыраць, то наехала рабочых і начальнікаў з усяго СССР, і беларуская мова пачала выцясняцца з ужытку. У пасёлку быў пабудаваны Дом культуры, дзе паказвалі кіно, а па нядзелях ладзіліся танцы пад духавы аркестр. Скончыўшы школу ў 1956-м, я два гады працаваў рабочым у крэйдавым кар'еры. Цяпер там усё змянілася, стары завод закрыўся, навакольныя пейзажы не пазнаць. З 1958 года я жыву ў Рызе, дзе скончыў жывапісна-педагагічнае аддзяленне Латвійскай акадэміі мастацтваў.

**– Але з радзімай падтрымліваеце самыя шчыльныя сувязі. Скажам, цэлую кнігу напісалі пра Краснасельскі і род Целешаў. Відаць, было складана збіраць звесткі пра сваіх родзічаў і землякоў, жывучы ў далёкай Рызе?**

– Так, кнігу «Адсюль наш род, тут мой прычал» пісаць мне было дужа няпроста. Спачатку я думаў толькі пра сваіх дзядоў-прадзедаў. Але, пачаўшы даследаваць паходжанне свайго прозвішча, пабачыў, што сярод жыхароў Краснага Сяла амаль трэць Целешаў. Мне адразу падумалася: ці не з аднаго яны роду? І сапраўды, калі я знайшоў у архіве дакументы 1795 года, дзе перапісана ўся вёска, то зразумеў: усе Целешы родзічы. І збіраць звесткі пра іх было няпроста. Скажам, распытваю ў землякоў пра свайго дзеда і чую ў адказ: «А нашто табе? Ты часам не шпіён?»

## «Скласці радавод – як аднаму ўзвесці піраміду»

**– Пошукі свайго радаводу падаліся вашаму сваяку шпіёнскай дзейнасцю?**

– Мабыць, нагадваюць пра сябе злавесныя цені мінулага. Людзі розныя сустракаліся. Але, дзякуй Богу, многа было і такіх, якія мяне разумелі, называлі летапісцам роду. Незабыўная сустрэча адбылася ў мяне ў Ваўкавыску – са 105-гадовым Целешам. Ён ужо не ўставаў з ложка, але, калі я звярнуўся да яго па-беларуску і расказаў пра свой клопат, ён жвава падхапіўся і пачаў са мной размаўляць – таксама па-беларуску. Быццам родная мова яму сілы дадала! Такія сустрэчы і такія людзі давалі мне імпульс да вельмі цяжкай працы. Скласці радавод – як аднаму ўзвесці піраміду.

**– Няўжо з мясцовых краязнаўцаў вам ніхто не дапамог?**

– Мне дапамагала сястра Вера, якая жыве ў Краснасельскім. Я прыязджаў з Рыгі на пару тыдняў, і за гэты час трэба было і з людзьмі сустрэцца, і за 70 кіламетраў у Гродна ездзіць, каб працаваць у архіве. Я рады, што кніга атрымалася. Прафесар Адам Мальдзіс у сваім водгуку заўважыў, што гэта першае глыбокае даследаванне сялянскага роду, бо раней так падрабязна вывучаліся толькі шляхецкія радаводы.

**– Архіўныя росшукі і выданне кнігі – усё рабілася за свой кошт?**

– А за чый жа? Камандзіровачных ніхто мне не аплачваў. З выданнем трохі дапамаглі два Целешы – Яўген і Сяргей, больш фундатараў не знайшлося. Але калі кніга была ўсё ж выдадзена, усе краснасельская Целешы атрымалі яе бясплатна, гэта мой падарунак суродзічам.

**– Жонка ваша – латышка. Хто з вас дасягнуў большых вынікаў – вы ў яе беларусізацыі ці яна ў вашай латышызацыі?**

– З Інгрыдай мы разам амаль 15 гадоў, паміж сабой размаўляем толькі па-латышску. Я латышскую мову вывучыў самастойна. Калі адкрыў у Рызе дзяржаўную Беларускую школу і стаў яе дырэктарам, то мусіў усю дакументацыю і перапіску з уладамі весці па-латышску, бо ў Латвіі адна дзяржаўная мова. Інгрыда беларускай мовы не ведае, хоць бывае на розных беларускіх вечарынах, ездзіць са мной у Беларусь, але пакуль толькі два словы засвоіла – *дзякуй* і *калі ласка*. Гаворыць трохі па-руску, бо вучылася ў савецкай школе. Жончыны ўнукі рускай мовы зусім не ведаюць, мае ўнукі ведаюць латышскую і беларускую, я з імі размаўляю толькі па-беларуску. Усе неяк знаходзім паразуменне.

**– Нягледзячы на доўгае жыццё ў Латвіі, вы ўсё ж беларускі мастак. Якое стаўленне да вас з боку латышскіх мастакоў, тамтэйшага творчага асяродку? Ці мастакі – кожны сам па сабе?**

– Калі я ўдзельнічаю ў мастацкіх выставах, то ў каталогах мяне запісваюць як латышскага мастака. У 1991 годзе я са сваімі аднадумцамі арганізаваў аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар», то як прадстаўніка гэтай суполкі мяне часам называюць беларускім мастаком у Латвіі. Я член Саюза латышскіх мастакоў, у мяне там шмат сяброў. Выставы суполкі «Маю гонар» адбываліся па ўсёй Латвіі, і паўсюдна нас з радасцю прымалі і мясцовыя беларусы, і латышы.

## «З майстэрні мілай пана Вячкі паўзлі мы, стаўшы на карачкі...»

**– Апрача ўсяго, вы – майстра экслібрыса. Вашы кніжныя знакі – як візітныя карткі пісьменнікаў Уладзіміра Караткевіча, Адама Мальдзіса, Зоські Верас… Яны былі задаволены вашай працай?**

– Усяго мной створана 76 экслібрысаў. Да названых вамі іх уладальнікаў дадам імёны Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Арлова, Лявона Луцкевіча, Раісы Жук-Грышкевіч, Сяргея Панізніка, Міхася Чарняўскага. У экслібрысе я стараюся паказаць сутнасць творцы. Памятаю, Караткевіч быў вельмі задаволены экслібрысам з Гродзенскім замкам і «Пагоняй», які я зрабіў яму як падарунак на 50-годдзе. Потым ён папрасіў дадрукаваць, і я яшчэ 200 асобнікаў адаслаў. Усе, каму я рабіў кніжныя знакі, таксама былі ўсцешаны. Мне на адзін экслібрыс трэба не менш за месяц, гэта дужа карпатлівая праца.

**– Вы заўжды прыязджаеце ў Беларусь не з пустымі рукамі. Ведаю, што колькі гадоў таму Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва атрымаў ад вас унікальны альбом з аўтографамі класікаў. Што гэта за альбом?**

– Ён вялікага фармату і вагой больш за 5 кілаграмаў. Калі я ў 1980 годзе ў Рызе збудаваў майстэрню, то завёў там кнігу водгукаў. Каб усе наведнікі і госці (майстэрня для многіх была і гасцініцай) пакідалі свае аўтографы. За доўгія гады назбіралася шмат малюнкаў і запісаў. Прыкладам, Уладзімір Караткевіч не толькі верш напісаў, але і малюнні цікавы пакінуў. Ён намаляваў мяне ў вобразе старажытнага беларуса, які вылазіць з крэмнездабыўнай шахты ў Краснасельскім з кіркай, зробленай з ласінага рогу. А малюнак суправадзіў радкамі: *«Прыйшоў у Краснае Сяло, / Дзе даўніх шахтаў веле ж, / І аж дыханне заняло – / Тут з шахты вылез Целеш».* Пасля застолля з'явіўся яшчэ адзін караткевічаўскі экспромт: *«З майстэрні мілай пана Вячкі / Паўзлі мы, стаўшы на карачкі. / І дух наш ледзь трымаўся ў целе, / Калі дамоў пусціў нас Целеш».*

**– Не магу сабе ўявіць вас з Караткевічам на карачках… Няўжо так шмат выпіта было?**

– Ды не, мы меру стараліся не перабіраць… Караткевіч тады ўжо хварэў, сядзеў, пісаў экспромты і маляваў. У альбоме таксама пакінулі свае запісы пісьменнікі Рыгор Барадулін, Кастусь Тарасаў, Алег Лойка, артысты Павел Дубашынскі, Стэфанія Станюта. З мастакоў у мяне пабывалі Леанід Шчамялёў, Яўген Кулік, Аляксей Марачкін, Мікола Купава. Зянон Пазьняк начаваў у майстэрні і таксама пакінуў свой аўтограф. Усіх аўтараў альбома цяжка пералічыць. Беларусы, якія знаходзілі мяне ў Рызе, не міналі маёй майстэрні, якую так і называлі – «Беларускай хаткай».

## «Мая калекцыя належыць Рэспубліцы Беларусь»

**– А яшчэ вы вядомы філакартыст, аўтар альбомаў «Мінск на старых паштоўках» і «Гарады Беларусі на старых паштоўках». У любой калекцыі ёсць свае унікумы. Якая самая ўнікальная паштоўка ў вашым зборы?**

– Самая ўнікальная – з аўтографам заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага, выдадзеная на пачатку XX стагоддзя. На паштоўцы, дарэчы, ёсць штэмпель Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Музей закрылі, і літоўцы мне з задавальненнем аддалі тую паштоўку. Не за так, вядома ж. Я ім прапанаваў Вільню царскага часу, прычым даваў тры паштоўкі за адну.

**– А колькі ўсяго паштовак вы сабралі?**

– Больш за 4000 – за 50 гадоў. Але я збіраў не толькі беларускія, з краявідамі Рыгі таксама выдаў цэлы альбом. Але галоўны мой скарб – беларускія паштоўкі. Дзіўна, але ў Беларусі музеі чамусьці імі не цікавяцца.

**– Калі нейкі музей зацікавіцца вашай калекцыяй, вы гатовы перадаць яе ў Беларусь?**

– Гатовы. Да мяне часам звяртаюцца розныя калекцыянеры і прадпрымальнікі, якія робяць на паштоўках бізнес. Просяць прадаць калекцыю. Але гэта значыць – пусціць яе на вецер. Я ім заўжды адказваю: «Мая калекцыя належыць Рэспубліцы Беларусь».

**– Я разумею гістарычную каштоўнасць паштовак з краявідамі старых гарадоў ці мястэчак. Але які сэнс у збіранні сумніўнай якасці гламуру? Вось і ў вашым зборы ёсць некалькі паштовак, на якіх надпісы «Привет из Гродно» і маладзіцы яўна вольных паводзін…**

– Гэта рэкламныя паштоўкі, разлічаныя на турыстаў. Я імі асабліва не захапляюся. Самыя каштоўныя паштоўкі – царскага часу, канца XIX стагоддзя, да 1917 года. Потым пачалася Першая сусветная вайна, частка Беларусі апынулася пад немцамі. На паштоўках гэтага перыяду – нямецкія акупанты, яны радуюцца, фатаграфуюцца на фоне Брэста ці Баранавічаў. Але ж і гэта – наша гісторыя. Я перакананы: візуальная інфармацыя працей даходзіць да людзей. Не кожны будзе чытаць тоўстую кнігу пра сусветную вайну. А паштоўкі паглядзець – і прыемна, і карысна. І галоўнае – мы бачым на іх будынкі, якія пазней, у гады Другой сусветнай, былі знішчаны.

## «Я грамадзянін Латвіі, гэта мая дзяржава»

**– Вы ўзнагароджаны вышэйшым латвійскім ордэнам Трох Зорак. Ім уганараваны лічаныя беларусы – Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха і Сяргей Панізнік. А не крыўдна, што родная беларуская дзяржава вас ніяк не адзначыла?**

– Не крыўдна. Я ўсё ж грамадзянін Латвіі, гэта мая дзяржава. Што да беларускіх узнагарод, то я адну ўсё ж маю. За кнігу «Гарады Беларусі на старых паштоўках» я атрымаў прэмію імя Францішка Багушэвіча – ад беларускага ПЭН-цэнтра. Пасведчанне падпісана Васілём Быкавым. Для мяне гэта самая ганаровая ўзнагарода. Больш ніякіх узнагарод мне ўжо не трэба. Хоць знакі ўвагі, прызнаюся, атрымліваць прыемна. Вось нядаўна на адкрыцці юбілейнай выставы ад імя Пасольства Беларусі мне была ўручана факсімільна выдадзеная карта Вялікага Княства Літоўскага 1613 года. А Міністэрства культуры Латвіі адзначыла маю працу Ганаровай граматай.

**– А як вы адзначылі свой юбілей? І калі вас чакаць на радзіме?**

– Юбілей я адзначыў персанальнымі выставамі ў Рызе і Елгаве. Другая выстава была зладжана ў межах Дзён беларускай культуры, якія штогод ладзіць тамтэйшае Беларускае таварыства «Лянок» пад кіраўніцтвам Алены Грысле. На яе адкрыцці браў слова і мэр Елгавы Андрыс Равіньш. Потым быў пачастунак з беларускім салам і дранікамі, з беларускім бальзамам, які латышам вельмі падабаецца. З-за перад'юбілейных клопатаў паехаць на Радзіму сёлета ў мяне, на жаль, не атрымалася. Да таго ж дапісваў і рыхтаваў да выдання кнігу «Беларускія мастакі ў Латвіі. 1920–1990». 180 старонак, 350 ілюстрацый.

**– А хто там галоўныя героі?**

– Вядомы жывапісец Пётра Міраповіч, які пасля вайны апынуўся ў ЗША, дзе і памёр. Народжаны ў Латгаліі Аркадзь Салаўёў, які доўгі час жыў у Празе. Яшчэ адзін герой – Міхась Калінін, выхаванец дзяржаўнай Беларускай гімназіі ў Даўгаўпілсе. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў, скончыў, праўда, толькі два курсы, потым быў настаўнікам у беларускіх школах. Ваяваў, прайшоў усю вайну, памёр у Рызе. У Беларусі амаль невядомы. Ёсць у кнізе нарыс пра Дзмітрыя Гадыцкага-Цвірку, які нарадзіўся ў Маладзечне, скончыў тую ж акадэмію, пазней выехаў у Данію, дзе і памёр. І зусім новае імя – Аляксандра Бельцава, якая нарадзілася ў Суражы (раней Украіна, цяпер – Бранская вобласць Расіі). У яе бацька быў беларусам, а маці ўкраінкай. У Латвіі яе лічаць класікам жывапісу.

## «Мы трымаемся разам, супольна адзначаем 25 Сакавіка»

**– У Латвіі існуе некалькі беларускіх суполак, якія прытрымліваюцца рознай палітычнай арыентацыі. Ці ўдаецца вам хоць неяк паміж сабой супрацоўнічаць?**

– У нас ёсць беларускае таварыства «Світанак», аб'яднанне мастакоў «Маю гонар» і беларускі цэнтр «Уздым» у Даўгаўпілсе. Мы трымаемся разам, супольна адзначаем святы, у тым ліку 25 Сакавіка. А яшчэ ёсць Саюз беларусаў Латвіі, які аб'ядноўвае каля дзесяці беларускіх суполак. Той саюз неяк адасоблена трымаецца. Так што сапраўды размежаванне ёсць, як і ў самой Беларусі. Не ўсе яшчэ разумеюць, што таварыствы патрэбны, каб захоўваць нацыянальную ідэнтычнасць нашай дыяспары.

**– А ці дапамагае вам Пасольства Беларусі ладзіць нейкія нацыянальныя мерапрыемствы?**

– Калі мы запрашаем, з Пасольства нехта заўсёды прыходзіць, але матэрыяльнай дапамогі няма ніякай. На адной сустрэчы пасол Марына Даўгаполава падышла да мяне і кажа: «Прабачце, я буду гаварыць па-руску альбо на трасянцы». Я кажу: размаўляйце з намі на любой мове, але – пра беларускія справы, пра наша мастацтва, пра нашу культуру. І Марына Іванаўна вывучыла мову, цяпер перад намі выступае толькі па-беларуску. Я гэтаму рады.

## «Калі прыйдзеш у госці да латыша, то песні там спяваюць толькі латышскія»

**– Расійскія тэлеканалы перыядычна ўздымаюць пытанне «дыскрымінацыі рускамоўнага насельніцтва» ў краінах Балтыі. Наколькі сур'ёзная для Латвіі гэта праблема?**

– У Латвіі рускамоўных так многа, што часам здаецца – латышоў менш. Такая спадчына дасталася краіне з савецкіх часоў. У рускамоўных іншая ментальнасць, іншыя адносіны да гісторыі, да дзяржаўнай мовы, і гэта выклікае ў латышоў трывогу. Калі пачалася вайна ва Украіне, у нас нават пагаворвалі, што Расія можа напасці на Латвію. Але латвійскі ўрад хутка ўсіх супакоіў: мы пад абаронай NATO, мы з'яднаны народ. І беларусам трэба яднацца ў адну сям'ю і не гандляваць сваім суверэнітэтам дзеля нейкага дабрабыту. Трэба, каб нас паважаў свет, каб усе бачылі, што ёсць беларуская дзяржава. Мы з латышамі ніколі не ваявалі, і яны нас вельмі добра ўспрымаюць. Мусім і далей жыць у згодзе.

**– У сваёй кнізе «Адсюль мой род…» вы аб'яднылі некалькі соцень Целешаў з усяго свету. Бясспрэчна, і беларусам неабходна аб'ядноўвацца. Але** ***што*** **нас можа аб'яднаць, як тых самых латышоў?**

– Я прыехаў у Латвію 19-гадовым юнаком і з той пары назіраю за латышамі. Іх яднае родная мова, нацыянальная спадчына і родная зямля. У іх на кожным свяце гучаць патрыятычныя песні. Калі прыйдзеш у госці да латыша, то песні там спяваюць толькі латышскія. Прычым іх ведаюць старыя і малыя. З дзіцячага садка ўсе ведаюць гімн Латвіі. У ім – не заклік да барацьбы, а малітва: «Божа, захавай Латвію, нашу зямлю». Таму латышоў ніякія палітыкі не могуць раз'яднаць. Я часам думаю: калі б беларусы, кіраўнікі розных узроўняў гаварылі па-беларуску, шанавалі б нашу гістарычную спадчыну, то наш народ пачуваўся б адным цэлым. Толькі родная мова і любоў да нацыянальнай спадчыны могуць з'яднаць беларусаў.

СУД ДЫ СПРАВА

# 613 рублёў штрафу за рэпост у сацсетках

Лідара гродзенскага музычнага гурта «Dzieciuki» Алеся Дзянісава Кастрычніцкі суд Гродна аштрафаваў на 25 базавых велічынь за нібыта захоўванне і распаўсюджванне экстрэмісцкіх матэрыялаў.

Пратакол на Дзянісава быў складзены за рэпост у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», дзе ён падзяліўся двума матэрыяламі з іншага сайта, якія тычыліся ўдзелу анархістаў Брэста ў «Маршы недармаедаў» сёлета ў сакавіку. Анархісцкая група яшчэ ў 2016 годзе была занесена ў спіс экстрэмісцкіх, аднак іх старонка ў сацсетках працягвала дзейнічаць да 10 верасня 2018 года.

Дзянісаў настойваў у судзе, што перапошчаныя ім матэрыялы не з'яўляюцца экстрэмісцкімі, паколькі яны не ўваходзяць у спіс тых матэрыялаў, за якія была зачынена група.

*«Так, гэта былі відэаматэрыялы, яны тычыліся пратэсту, які насіў сацыяльна-эканамічны характар, але ўдзельнікі акцыі не заклікалі ні да звяржэння ўлады, ні да таго, каб нехта карыстаўся наркотыкамі, альбо да яшчэ нечага падобнага. Гэта быў папросту рэальны факт»,* – канстатаваў у судзе Алесь Дзянісаў.

Ён таксама дадаў, што пасля таго, як інтэрнэт-старонка анархістаў была прызнана экстрэмісцкай, да яе быў адкрыты доступ практычна яшчэ цэлы год, а віна за доступ да гэтай старонкі, маўляў, ляжыць на дзяржаўных органах, якія павінны былі яе заблакіраваць.

Тым не менш суд не ўзяў да ўвагі аргументы Дзянісава і паводле часткі 2 артыкула 17.11 КаАП Рэспублікі Беларусь («Захоўванне і распаўсюджванне экстрэмісцкіх матэрыялаў») ён быў аштрафаваны на 25 базавых велічынь, што складае 613 рублёў 50 капеек.




Алесь Дзянісаў.

Аляксей МІХАЛЁЎ.

Народная Воля http://www.nv-online.info
6 ЛІСТАПАДА 2018 г.

РЭДКІ ГОСЦЬ

# Афіцыянт і оперная музыка

*Афіцыянт з Гданьска стварыў энцыклапедыю артыстаў беларускай оперы за ўсю гісторыю існавання гэтага мастацтва ў Беларусі. Вось так эфектна ў некалькіх словах можна вызначыць тэму інтэрв'ю з Сяргеем Русецкім. Але ён афіцыянт толькі паводле месца працы, і то працы часовай.*



Сяргей Русецкі – наш суайчыннік, па адукацыі ён гісторык, шмат гадоў выкладаў у Акадэміі мастацтваў. А ў Гданьску апынуўся па загадзе мяцежнай душы, называе сваё сённяшняе месца жыхарства проста адной са сваіх творчых рэзервацый, таму што яму як гісторыку неабходна быць бліжэй да польскіх архіваў і бібліятэк.

Вось так – днём па 10–12 гадзін чалавек працуе ў рэстаране, вечарам і падчас ноччу піша кнігі. Адна з іх – энцыклапедыя «Оперныя спевакі Беларусі» – гатовая да друку.

**– Раскажыце: што гэта за кніга, калі дзеля яе давялося з'ехаць з Беларусі?**

– Я гісторык, да таго ж меламан. Яшчэ студэнтам пачаў хадзіць у оперу. Памятаю, што тады была традыцыя даваць оперныя спектаклі па аўторках, чацвяргах і суботах… Сумарна ў мяне каля 2000 візітаў у оперныя тэатры. Да юбілею нашага тэатра дапамагаў у стварэнні «Вялікай энцыклапедыі Вялікага тэатра Беларусі», браў самы актыўны ўдзел як рэдактар і як аўтар. Атрымалася добрае выданне, якое ў першую чаргу расказвае пра ўсе пастаноўкі Вялікага тэатра з 1933 года. І вельмі мала расказвае пра людзей. А мне падалося гэта не зусім справядлівым, і я вырашыў: а ці не падрыхтаваць кнігу пра ўсіх оперных спевакоў Беларусі?

**– Да 1933 года ў беларускай сталіцы быў не тэатр, а оперная студыя.**

– І мы нават не ведаем імёнаў усіх артыстаў, якія там працавалі. Ці ведаем толькі іх прозвішчы, таму што ў праграмках да вайны друкавалі толькі ініцыялы артыстаў.

**– І дзе вы адшукалі іх імёны?**

– Гэта было няпроста. Нешта знайшлося ў фондах Нацыянальнага архіва, у асноўным у знакамітым для ўсіх гісторыкаў фондзе кампартыі БССР. Таксама выпадкова захаваліся адзінкавыя дакументы, якія і захоўвацца не павінны былі, – напрыклад, бальнічныя лісткі. А нешта пра даваенных артыстаў оперы захоўваюць фонды Мінскага гарадскога тэатра, што дзейнічаў падчас акупацыі, пра што мала хто ведае… У будынку Купалаўскага тэатра працавалі тады тры трупы: оперная, драматычная і эстрадна-цыркавая.

**– Зразумела... Таму што ў будынку опернага стаялі нямецкія коні. Адразу напрошваецца пытанне: як склаўся далейшы лёс тых артыстаў, хто працаваў падчас акупацыі? Многіх пасля вайны рэпрэсавалі?**

– Некаторых. А некаторыя пазбеглі гэтага лёсу. Але прынцып адбору, якім карыстаўся НКУС, я не змог зразумець. Я размаўляў з нашчадкамі амаль кожнага з артыстаў. Напрыклад, родную сястру кампазітара Рыгора Пуксты – мецца-сапрана Варвару Пукст, якая была вядучай салісткай у гады акупацыі і нават ставіла тады спектаклі як рэжысёр, не рэпрэсавалі, але яе жыццё было вельмі складанае. Яна не магла ўладкавацца на працу, доўгі час у яе не было нават пашпарта.

**– А як асабіста вы ставіцеся да перыяду акупацыі?**

– Ведаеце, дакументы сведчаць, што Мінскі гарадскі тэатр не быў прапагандысцкім, гэта адзначалі нават даследчыкі савецкай загартоўкі. Немцы адкрылі тэатр 24 ліпеня 1941 года, і працаваў ён як гадзіннік. Немцы ім не кіравалі, а на пастаноўкі хадзілі самыя розныя людзі. Рэпертуар опернай трупы мной поўнасцю адноўлены: «Яўген Анегін», «Запарожац за Дунаем», «Кармэн», «Вяселле Фігара», «Севільскі цырульнік», аперэта «Цыганскі барон», опера Мікалая Шчаглова «Лясное возера», опера Туранкова «Купалле»... Усё па-беларуску, дарэчы. Цудоўныя пераклады рабіла Наталля Арсеннева.

**– Лёс Шчаглова вам вядомы?**

– Ён з'ехаў у Германію, потым у Штаты. За ім рушыла ўслед невялікая колькасць артыстаў: Барбара Вержбаловіч, Мікалай Зубковіч з жонкай – кампазітарам Эльзай Зубковіч, якая супрацоўнічала з тэатрам. А астатнія засталіся тут, напэўна, думалі, што нічога кепскага яны не зрабілі і пакарання не заслугоўваюць. Некаторыя нават супрацоўнічалі з падполлем і партызанамі, напрыклад, артыстка Ядвіга Бжэзінская, мецца-сапрана, шпіёніла ў нямецкіх часцях падчас гастрольных канцэртаў жаночага вакальнага актэта і перадавала аператыўную інфармацыю свайму мужу – знакамітаму трамбаністу і педагогу Івану Рыбкіну. Яго брутальна забілі немцы ў лютым 1944 года, пасля чаго Ядвіга Адамаўна з дачкой пакінула тэатр і прабралася ў брыгаду імя Катоўскага пад Баранавічамі. Цікава, што адразу пасля вызвалення Мінска ў 1944-м амаль усіх, хто працаваў у акупацыі, зноўку прынялі ў трупу нашага Вялікага тэатра. Але ў 1947-м звольнілі! Палова з іх прайшла праз лагер, як Мікалай Сімага, Мікалай Вастокаў. Але большасць сцэнічнай кар'еры ўжо не зрабіла, за рэдкімі выключэннямі, да якіх можна аднесці выпадак Мікалая Лазарава, які доўгі час быў вядучым драматычным тэнарам у тэатры, нават атрымаў званне – больш не было каму спяваць. Ульяна Масленікава, Ніна Бандарэнка з мужам Мікалаем Швайко, карыфей вакальнай педагогікі Вольга Несцярэнка... Ім яшчэ пашанцавала, яны выкладалі ў кансерваторыі, лічыліся бліскучымі педагогамі.

**– Колькі ўсяго імёнаў беларускіх спевакоў у вашай энцыклапедыі?**

– Каля 500 – гэта за ўсю гісторыю існавання ў Беларусі опернага мастацтва. А яно на нашых землях пачынаецца, як гэта ні дзіўна, у XVII стагоддзі з каралеўскай прыдворнай капэлы Вазаў, якая выступала ў тым ліку ў Вільні і іншых беларускіх гарадах. Уладзіслаў Ваза быў страшны меламан і эстэт, гэта было ў яго ад бацькі Жыгімонта. Але непасрэдна опернае мастацтва ў вялікай форме ў нас узнікла ў XVIII стагоддзі ў прыватных тэатрах Агінскіх, Сапегаў, Радзівілаў і так далей. І якраз кніга мая заклікана паказаць, што сучасная беларуская опера мае дыхтоўны еўрапейскі падмурак.

**– Што было самым складаным пры падрыхтоўцы кнігі?**

– Знаходзіць па ўсім свеце нашчадкаў тых артыстаў, якія некалі працавалі ў тэатры. Напрыклад, у нас быў цудоўны барытон Сяргей Архіпаў, які загінуў у Мінску ў першыя дні вайны пад бамбёжкай. Нават забылі яго імя, Архіпаў і усё. Але я знайшоў яго родных, і яны былі так уражаны!..

А нядаўна адшукаў родзічаў цудоўнай спявачкі Цылі Мільчынай, і яны запрасілі мяне ў Ізраіль, каб асабіста пагаварыць. І нават далі ўжо трохі грошай на кнігу – на вокладку дакладна хопіць.

**– А зараз некалькі слоў пра вашу работу ў польскім рэстаране. Як гэта: беларускі гісторык у сферы абслугоўвання суседняй краіны?**

– Гэта было спантаннае рашэнне, ніколі не думаў, што буду працаваць афіцыянтам, ды гэта і немагчыма ў Беларусі ў маім узросце. У нас афіцыянт – падпрацоўка толькі для студэнтаў. А ў Польшчы гэта абсалютна нармальна і ў 50-гадовым ўзросце, ды, я заўважыў, і кліенты любяць атрымліваць больш кваліфікаваны сэрвіс.

**– Вы дзе-небудзь гэтаму вучыліся?**

– Не, у мяне, напэўна, ёсць здольнасці. А пачаў я некалькі гадоў таму ў Віцебску, дзе разам з сябрам мы паспяхова рабілі ірландскі паб. Мне наогул вельмі лёгка размаўляць з людзьмі, праца педагога сказваецца. А вось фізічна працаваць па 12 гадзін на нагах няпроста нават спартсмену – са мной якраз працуе ўдзельнік зборнай Польшчы па бабслеі, можа пацвердзіць. У маім рэстаране ў Гданьску вельмі вялікі рух, ён знаходзіцца ў турыстычным цэнтры, адпачыць няма калі нават хвіліну-другую. Працую пяць дзён у тыдзень, а навукай займаюся ў вольны час – дзве-тры гадзіны штодня стабільна.

**Алена МАЛОЧКА.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Трымайцеся, Ганна!

*Пазаўчора ноччу ў сацыяльных сетках былая актрыса Купалаўскага тэатра прызналася, што хворая на анкалогію.*



*«Рак грудзей... 3-я стадыя...* – падзялілася сумнай навіной Ганна Хітрык са сваімі прыхільнікамі і блізкімі. – *Метастазаў няма... Закрануты лімфы... Ззаду 2 хіміі, наперадзе – 6 месяцаў хіміі і аперацыя...*

*А потым валасы адрастуць, страх сыдзе і я вярнуся да вас моцная... І мы абдымемся... І паплачам, і пасмяёмся. І я спяю вам новыя і старыя гісторыі... І, дай Бог, змагу дапамагчы дзяўчынкам, якія апынуліся ў падобнай сітуацыі!»*

За лічаныя хвіліны на гэты пост са словамі падтрымкі адгукнуліся сотні людзей.

Год таму Ганна змяніла месца жыхарства і дзеля сына Сцяпана, хворага на аўтызм, разам з сям'ёй з'ехала ў Ізраіль.

«*Тут зусім іншыя каштоўнасці*, – распавядала актрыса ў адным інтэрв'ю. – *Тут цэняць проста тое, што жывуць. Бо ніхто не ведае, калі што можа здарыцца і колькі таго жыцця застанецца. Тут цэняць самыя простыя рэчы*».

**Вера ВІР.**

**На фота: Ганна з мужам і сынам.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Міхаіл Фінберг прэзентуе праграму пра Яўгена Еўтушэнку



*Прэм'ера адбудзецца 16 лістапада ў Калінкавічах, на малой радзіме дзеда паэта.*

*«Яўген Еўтушэнка – выдатны савецкі паэт,* – гаворыць Міхаіл Фінберг. – *Я не аднойчы з ім сустракаўся, першы раз у Ленінградзе, потым у Мінску, Маскве і на Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Яго даўно няма з намі, але яго творы будуць жыць вечна».*

«У дзень канцэрта ў Калінкавіцкай дзіцячай музычнай школе мастацтваў Міхаіл Фінберг правядзе майстар-клас, – паведамляе belta.by. – Затым выступіць струнны квартэт заслужанага аркестра».

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# 10 повседневных привычек, которые подвергают вас риску заболеть гриппом

*Обычно это инфекционное заболевание начинается внезапно. Некоторые из распространенных симптомов – высокая температура, лихорадка, кашель, насморк, головная боль, усталость, общая слабость. Следите за своим самочувствием и пересмотрите привычки, которые подвергают вас риску заболеть, пишет Good Housekeeping. Это важно, поскольку, как правило, пик заболеваемости наблюдается в феврале.*

## Забываете мыть большой палец

Простое мытье рук значительно снижает вероятность заражения респираторными инфекциями. За 20 секунд можно полностью избавиться от вирусов и бактерий, которые вызывают простуду, грипп, инфекции и расстройство желудка. Кроме того, такая тщательная гигиена уменьшает потребность в антибиотиках (которые становятся менее эффективными, поскольку бактерии становятся все более устойчивыми к ним).

Но есть одна распространенная ошибка: многие не моют большой палец каждой руки. Отдельно.

Это важно, поскольку именно большим пальцем мы чаще всего трогаем поверхности, которые могут стать прибежищем для вирусов гриппа, бактерий стафилококка и других неприятных микроорганизмов, например, водим им по экрану смартфона, планшета, включаем пульт дистанционного управления и т.д.

## Ставите свою сумку на пол

Если вы ставите сумку или рюкзак на пол, то тем самым распахиваете двери перед различными бактериями. Еще хуже, если вы случайно уронили кошелек в ресторане или свою косметичку в туалете, отправившись подправить макияж, а затем подняли и положили на стол. Как правило, такие изделия изготовлены из ткани или кожи. Чтобы очистить их, рекомендуется смешать гель для умывания с двумя чашками теплой воды, намочить мягкую тряпочку и вытереть грязь.

## Храните зубные щетки слишком близко друг от друга

На одном квадратном миллиметре слизистой рта человека уживается до 100 миллионов микробов. Когда вы чистите зубы, щетка не убивает микроорганизмы, а только собирает их на себя. Вместе с ними в щетинку попадают остатки пищи, и таким образом щетка превращается в отличное место для размножения бактерий. Поэтому после каждой чистки зубов обязательно хорошенько мойте зубную щетку и храните ее в сухом состоянии в вертикальном положении, желательно вдали от унитаза, потому что, по мнению британских ученых, при сливе воды в унитазе микроорганизмы разбрасываются в разные стороны почти на 2 метра.

Не кладите щетки на близком расстоянии друг от друга, на ванную полку, где она может собрать еще больше различных патогенов, и не прячьте в футляр, так как влага только придаст заразе бойкости.

## Обедаете за рабочим столом

Ваш стол в 100 раз грязнее, чем сиденье для унитаза, поэтому последнее, что нужно делать, это не обедать на этой загрязненной поверхности. Если вы находитесь дома, то поешьте за столом на кухне, если в офисе – то в комнате отдыха. В крайнем случае, если других вариантов нет, сначала продезинфицируйте поверхность, например, влажными салфетками.

## Забываете дезинфицировать все ручки

Многие из нас во время уборки протирают дверные ручки, но забывают обо всех остальных, например, ручках шкафчиков на кухне, в ванной комнате, секции и т.д. А ведь их можно смело назвать




«горячими точками», поскольку их касаются все члены семьи несколько раз в день. Желательно протирать их каждый день, особенно если в доме кто-то заболел гриппом. Сделать это быстро помогут влажные салфетки.

## Пользуетесь телефоном в ванной комнате

По данным исследований, все, что вы берете с собой в ванную комнату, может «заразиться» микробами. Обычно это смартфон. Чтобы избавиться от непрошеных гостей, обязательно протрите телефон спиртовой салфеткой. Еще лучше: купите упаковку и носите ее с собой и на всякий случай храните еще одну в автомобиле.

## Ходите по квартире в обуви

К подошве обуви прилипает множество различных бактерий, которые вы приносите в дом. Хорошо, если у вас есть коврик перед входной дверью, о который вы тщательно вытираете ноги, а у входа находятся тапочки, в которые можно быстро, не шагая по коридору, переобуться. Еще один вариант – помыть подошву. Но делать это нужно сразу. Если же вы оставите это на «потом», то к этому моменту инфекция может распространиться за пределы вашей прихожей.

## Забываете есть йогурт

Многие исследования, проведенные американскими и европейскими учеными, свидетельствуют, что пробиотики облегчают симптомы гриппа: температуру, кашель и заложенный нос. Укрепить иммунную систему также помогут черника и другие темные ягоды, фрукты и овощи, которые содержат наибольшее количество витаминов, минералов, клетчатки и главным образом фитонутриентов, каши из цельного зерна, квашеная капуста, чеснок и т.д.

## Слишком долго не меняете простыни

Ученые считают, что постельное белье – настоящий «ботанический сад» из бактерий и грибков: во время сна мы создаем там теплую и влажную среду, которая как раз и способствует распространению бактерий. Наряду с ними в белье также обитают опасные микроорганизмы, попадающие в постель вместе с пыльцой, почвой, ворсом, шерстью животных, пылевым клещом и экскрементами. Чтобы этот мир не превратился в реальную угрозу здоровью человека, стирать постельное белье рекомендуется как минимум раз в 7 дней, максимум – раз в две недели.

## Не прививаетесь от гриппа

Вакцинация – это профилактика. В то же время прививка не гарантирует, что человек не заболеет. Однако если это и случится, то скорее всего болезнь пройдет в легкой форме, без осложнений. Особенно это актуально для тех, кто страдает хроническими заболеваниями, поскольку грипп может их обострить. Чтобы иммунная система распознала компоненты вируса гриппа, уходит около двух недель.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Инна Афанасьева довела публику до слез

*И спела дуэтом вместе с мужем, российско-белорусским бизнесменом Александром Котовым, трогательную песню про чужие объятия. Зрители щедро дарили артистке заслуженные аплодисменты.*

Вечером 2 ноября у входа во Дворец Республики с десяток человек спрашивали лишний билетик, а в зале, рассчитанном на 2700 мест, не было ни одного свободного кресла! Все билеты раскупили еще за три недели до концерта.

*«На мои концерты всегда приходят самые хорошие люди, потому что я – хорошая певица,* – и в шутку и всерьез говорила со сцены заслуженная артистка Беларуси. – *Концерт состоялся. Три недели нет билетов – такого на белорусской эстраде еще не было! Не знаю, что случилось… Наверное, сыграло роль то, что я сказала: «Это последний концерт», – и все решили: ага, надо сходить. Но я вас не разочарую! Певица я потрясающая, костюмы у меня красивые, богатые, дорогие…»*

Оформление сцены, режиссура – все было сделано на высшем уровне. На концерт по случаю 50-летия певицы и 30-летия ее творческой деятельности пришли не только близкие Инны, но и авторы песен, режиссеры, с которыми она работала, артисты. Инна пела и новые песни, и хорошо забытые старые – на русском, белорусском и даже польском языках!

*«Без этих песен не было бы меня»,* – сказала она.

Композитор **Олег Елисеенков**, выйдя на сцену с большим букетом роз, рассказал, как однажды Афанасьева пришла на его авторский концерт… на костылях, с переломом ноги.

*«Концерт начался, а Инна задерживается. Я даже стал волноваться, и вдруг она появляется – прямо из больницы пришла! А когда взяла микрофон, в зале никто и представить не мог, что она стоит на сцене с переломом! Инна – настоящая артистка. Народная!»*

Кстати, в тот вечер многие называли заслуженную артистку Афанасьеву – народной. Она не поправляла – улыбалась. Может, потому, что действительно уже давно должна быть народной?



Инна и Александр – замечательный дуэт в жизни и на сцене.



Бабушка и внучка.

На сцену вышла и внучка Инны Афанасьевой. Она спела бабушке «Хэппи бёздэй!».

*«А вот и моя девочка идет»,* – трогательно познакомила Инна публику со своей внучкой Варей, которую зовет *«мое счастье»* и *«моя принцесса»*. Представила залу Инна Афанасьева и свою невестку **Юлию Верховскую**, заметив: *«Свекровь я – ого-го!»*

Афанасьева пела не только про любовь. Номер «Мир один на всех» с участием детского танцевального коллектива ORIGAMI сорвал шквал аплодисментов.

*«Мы порой не замечаем, как меняется мир,* – сказала Инна. – *Мы умеем любить, прощать, мы совершаем ошибки и исправляем их, строим будущее и разрушаем его настоящим. Мы закрываем глаза на то, что происходит вокруг. Я прошу: давайте остановимся, посмотрим друг на друга, станем чуть добрее и будем всегда помнить, что живем под одним солнцем. И что этот мир – один на всех».*

За почти три часа концерта прозвучало и несколько красивых дуэтов. Инна Афанасьева спела с народной артисткой Беларуси **Ядвигой Поплавской** и заслуженной артисткой **Ириной Дорофеевой**, а также автором своих популярных песен певицей **Юлией Быковой.**

*«Ядя и Саша – первые люди, которые помогали мне, когда я приехала в Минск,* – поделилась воспоминаниями Инна. – *Я с ними много ездила по стране. И, стоя за кулисами, видела, как искренне они любят людей. И во многом благодаря им я стала такой артисткой и таким человеком».*

*«Я из Могилева, занималась в детском ансамбле – мой педагог два года назад отметила 70-летие, благодаря этой удивительной женщине я так красиво пою,* – с улыбкой говорила Инна, представляя свой дуэт с **Дорофеевой**. – *Я ведь очень простая девочка из обычной семьи, мы жили в деревне, и я никогда не думала, что смогу выступать на сцене, что могу быть красивой. А я красивая! Это такой аутотренинг. Человек же должен сам себе нравиться! Просыпаетесь и каждое утро говорите себе: я красивая, красивая, красивая! Это же здорово! А если серьезно, то мы с детским ансамблем объездили много городов и стран. Я ведь певица, которая видела Ленина (в мавзолее), Брежнева, Машерова, Горбачева. Кого я только не видела!..*

*Так вот Ирину Дорофееву я впервые увидела как раз в могилевской студии – педагог показала мне девочку с двумя хвостиками, которая пела что-то джазовое… Нас сегодня часто путают. Звонят мне и говорят: «Ирина, здравствуйте!»*

Одним из трогательных моментов вечера стал дуэт Афанасьевой с мужем. Кстати, в этом году будет два года, как они тайно поженились.

*«Разве я мог не узнать тебя, столько лет мы потратили на чужие объятия, на пустые слова…»* – пели Инна и Александр, а на большом экране мелькали их совместные семейные фото, в том числе и из загса.

Публика не жалела аплодисментов.

**Александр Котов** держался на сцене уверенно и не отводил взгляда от своей красавицы жены. *«Я тебя люблю!»* – сказал он.

*«Вы не представляете, как он волновался! Первый раз взял «трехтысячник», не просто так!»* – подколола Инна мужа.

А в конце концерта зрители просто не могли сдержать слез.

*«Когда была маленькой, родители никогда не приходили на мои концерты – не было возможности,* – рассказала Инна. – *А мне всегда очень хотелось, чтобы родители видели, как я стою на сцене, пою. Вся такая маленькая, со смешной стрижкой… Все время боялась забыть слова – сейчас я их тоже забываю… Был лишь один концерт, на который мама с папой смогли приехать. А в основном они меня видели по телевизору. И гордились мной.*

*Потом по телевизору стал видеть меня мой сын. Сегодня Ваня должен был быть на этой сцене – он талантливый, хороший человек, артист, безумно любит сцену. Но у него спектакль – он служит в Русском театре. Мне жаль, что он не смог быть и поздравить меня, но я знаю, что всей душой и сердцем он со мной.*

*В зале есть человек, который дал мне жизнь и сделал все для того, чтобы я могла петь. Моя мама – удивительная. Мы с братом никогда не чувствовали, что у нас любят кого-то больше, кого-то меньше. И я всю жизнь буду благодарна своей маме за то, что она у меня есть…»*

Под бурные аплодисменты, смахивая слезы с глаз, Инна подарила маме красивый букет длинных белых роз.

*«Я тебя очень люблю, мама!* – сказала она. – *Пока живы наши родители – мы еще дети. Я хоть и прекрасная певица, но я – всего лишь твой ребенок…»*

Казалось, слезы в тот момент навернулись на глаза у всех…

Почти три часа пролетели как один миг. К сожалению, концерт Инны Афанасьевой был последним. Во всяком случае так сказала сама артистка, пообещав при этом все-таки радовать публику своими новыми песнями.

**Марина КОКТЫШ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Танцы перад операй

Сёння на ўваходзе Вялікага тэатра гледачоў сустрэне фолк-гурт HardWood. Так што прыходзьце на гадзіну раней. Музыка перанясе вас як мінімум на чатыры стагоддзі назад, у часы непрыступных замкаў з высокімі вежамі, княжых баляў і паляванняў, шляхціцаў і нобіляў. Бо граюць музыкі HardWood на інструментах, якія не так ужо часта можна ўбачыць у звычайным жыцці. Але ж і тэатр запрашае вас на незвычайны вечар. Дарэчы, на вечарыне можна будзе таксама і патанчыць.

У той жа час у фае тэатра адкрыецца выстава аднаго дня, дакладней – аднаго вечара. Музей старажытнай беларускай культуры пры Акадэміі навук прадставіць гонар Беларусі – арыгінальны слуцкі пояс XVIII стагоддзя, які ўпершыню пакіне музейную прастору. Чаму адзін слуцкі пояс падчас каштаваў даражэй, чым цэлая вёска? Чаму з часткі мужчынскага касцюма пояс ператварыўся ў сапраўдны твор мастацтва, прызнаны ва ўсім свеце? Пра гэта вам распавядзе дырэктар Музея старажытнай беларускай культуры Барыс Лазука.

А потым пачнецца спектакль – шэдэўр нацыянальнага мастацтва опера «Сівая легенда» кампазітара Дзмітрыя Смольскага на лібрэта аўтара аповесці Уладзіміра Караткевіча. Гэты сапраўды ўнікальны твор пра каханне, якое мацней за ўсё на свеце, можна ўбачыць толькі ў тэатры: спампаваць яго дзе-небудзь на прасторах Сусветнай павуціны ў вас наўрад ці атрымаецца.

Галоўныя жаночыя партыі сёння будуць выконваць дзве сапраўдныя зоркі тэатра: народная артыстка Беларусі Ніна Шарубіна (Ірына) і заслужаная артыстка Аксана Волкава (Любка).

**Вікторыя ДРОЗД.**

СИТУАЦИЯ

# Легион идет!

*Около месяца осталось до старта биатлонного сезона.*



Как уже сообщалось, завершили выступление лидеры сборной **Дарья Домрачева** и **Надежда Скардино**, поэтому сейчас тренеры команды решили сделать ставку на российских спортсменок, которых взяли на просмотр в команду «оптом». Так, видимо, проще, нежели воспитывать своих.

А на днях глава Белорусской федерации биатлона **Андриан Цыбульский** встретился с болельщиками и ответил на их вопросы. Как сообщил pressball.by со ссылкой на пользовательницу сообщества «Биатлон онлайн» **Ингу Пинголь**, на вопрос, почему пригласили россиянок из четвертых-пятых составов, руководитель федерации ответил так: специально искали тех, кого в российском биатлоне проглядели, а спортсменок более высокого уровня без ухудшения отношений с Союзом биатлонистов России невозможно было получить.

Также Цыбульский сообщил, что, мол, по научным показателям приглашенные россиянки лучше доморощенных спортсменок, хотя пока что они всего лишь кандидаты в сборную.

*«Все спортсменки, которые в итоге получили предложение сменить спортивное гражданство, безусловно, обладают потенциалом, который произвел на нас позитивное впечатление. Это касается и сестер Кручинкиных, и Костюченко, и юниорок Яборовой и Мусатовой.*

*Ждать сиюминутных результатов, прорывов на пьедестал – наивно, но при этом крайне важен следующий момент: с ними можно работать с прицелом на олимпийский цикл и сами Игры-2022 в Пекине. Так что не ради того, чтобы закрыть квоту на этапах Кубка мира, состоялись приглашения. Надо мыслить глобальнее. Из всех прошедших тестирование ребят и девчат, среди которых, разумеется, были и белорусские биатлонисты, наиболее перспективными оказались именно эти спортсмены»,* – приводит слова главного тренера белорусской биатлонной сборной **Юрия Альберса** sputnik.by.

### Календарь соревнований Кубок мира-2018/19

**Первый этап. Поклюка, Словения**
2 декабря – сингл-микст и смешанная эстафета
5 декабря – индивидуальная гонка (мужчины)
6 декабря – индивидуальная гонка (женщины)
7 декабря – спринт (мужчины)
8 декабря – спринт (женщины)
9 декабря – гонка преследования (мужчины) и гонка преследования (женщины).

**Второй этап. Хохфильцен, Австрия**
13 декабря – спринт (женщины)
14 декабря – спринт (мужчины)
15 декабря – гонка преследования (женщины) и гонка преследования (мужчины)
16 декабря – эстафета (женщины) и эстафета (мужчины)

**Третий этап. Нове-Место, Чехия**
20 декабря – спринт (мужчины)
21 декабря – спринт (женщины)
22 декабря – гонка преследования (мужчины) и гонка преследования (женщины)
23 декабря – масс-старт (мужчины) и масс-старт (женщины).

**Четвертый этап. Оберхоф, Германия**
10 января – спринт (женщины)
11 января – спринт (мужчины)
12 января – гонка преследования (женщины) и гонка преследования (мужчины)
13 января – эстафета (женщины) и эстафета (мужчины).

**Пятый этап. Рупольдинг, Германия**
16 января – спринт (мужчины)
17 января – спринт (женщины)
18 января – эстафета (мужчины)
19 января – эстафета (женщины)
20 января – масс-старт (мужчины) и масс-старт (женщины).

**Шестой этап. Антхольц, Италия**
24 января – спринт (женщины)
25 января – спринт (мужчины)
26 января – гонка преследования (женщины) и гонка преследования (мужчины)
27 января – масс-старт (женщины) и масс-старт (мужчины).

**Седьмой этап. Кэнмор, Канада**
7 февраля – индивидуальная гонка (мужчины) и индивидуальная гонка (женщины)
9 февраля – эстафета (мужчины) и эстафета (женщины)
10 февраля – масс-старт (мужчины) и масс-старт (женщины).

**Восьмой этап. Солт-Лейк-Сити, США**
14 февраля – спринт (женщины)
15 февраля – спринт (мужчины)
16 февраля – масс-старт (женщины) и масс-старт (мужчины)
17 февраля – сингл-микст и смешанная эстафета.

**Девятый этап. Холменколлен, Норвегия**
21 марта – спринт (женщины)
22 марта – спринт (мужчины)
23 марта – гонка преследования (женщины) и гонка преследования (мужчины)
24 марта – масс-старт (женщины) и масс-старт (мужчины).
**Чемпионат мира по биатлону пройдет в Эстерсунде, Швеция, с 7 по 17 марта 2019 года.**

Одним словом, в этом сезоне белорусским болельщикам рассчитывать особо не на что. А российский «легион» как пришел, так через некоторое время может и уйти. Для многих легионеров белорусская сборная не более чем возможность попасть на крупные международные соревнования. Жаль только, что в этой ситуации о своих спортсменах вспоминаем все меньше...

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

ФУТБОЛ

# Пятнаццаціразовыя!

*Барысаўскі БАТЭ датэрмінова стаў чэмпіёнам Беларусі – трынаццаты раз запар.*



Фота TUT.by.

Перамога над гродзенскім «Нёманам» канстатавала факт: барысаўчане ў 15-ы раз сталі пераможцамі нацыянальнага першынства. Праўда, гэтым разам трыумф быў, што называецца, са слязамі на вачах.

22 верасня на 53-м годзе жыцця памёр старшыня ФК БАТЭ Анатоль Капскі, таму свята аказалася з горкім прысмакам. І ніякіх асаблівых урачыстасцяў пасля пераможнай гульні, наколькі мне вядома, таксама не было – каманда проста парадавалася чарговаму тытулу. А ўжо зараз БАТЭ рыхтуецца да матча Лігі Еўропы з англійскім «Чэлсі», які адбудзецца 8 лістапада на «Барысаў-Арэне».

Вось вынікі гульняў 27-га тура: «Мінск» – «Гарадзея» – 0:5, «Віцебск» – «Дынама» (Мінск) – 0:1, «Дынама» (Брэст) – « Іслач» (Мінскі раён) – 3:1, «Слуцк» – «Тарпеда» (Мінск) – 1:3, «Днепр» (Магілёў) – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 0:3, БАТЭ (Барысаў) – «Нёман» (Гродна) – 1:0, «Прамень» (Мінск) – «Шахцёр» (Салігорск) – 1:1, «Смалявічы» – «Гомель» – 1:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 27 | 22 | 3 | 2 | 49–18 | 69 |
| Шахцёр | 27 | 16 | 7 | 4 | 36–14 | 55 |
| Дынама (Мн) | 27 | 15 | 9 | 3 | 33–17 | 54 |
| Віцебск | 27 | 16 | 5 | 6 | 42–19 | 53 |
| Тарпеда-БелАЗ | 27 | 15 | 5 | 7 | 32–16 | 50 |
| Дынама (Бр) | 27 | 13 | 9 | 5 | 49–29 | 48 |
| Нёман | 27 | 11 | 6 | 10 | 28–27 | 39 |
| Слуцк | 27 | 11 | 3 | 13 | 26–31 | 36 |
| Гарадзея | 26 | 7 | 7 | 13 | 28–32 | 28 |
| Гомель | 27 | 7 | 6 | 14 | 15–31 | 27 |
| Мінск | 27 | 6 | 9 | 12 | 31–36 | 27 |
| Смалявічы | 27 | 5 | 7 | 15 | 19–35 | 22 |
| Іслач | 27 | 6 | 9 | 12 | 16–34 | 27 |
| Прамень | 27 | 4 | 10 | 13 | 22–39 | 22 |
| Тарпеда | 27 | 5 | 6 | 16 | 17–36 | 21 |
| Днепр | 27 | 3 | 7 | 17 | 15–44 | 16 |

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ
9 772071 964000 18088
Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 05.11.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 010 экз. Заказ № 4086.